*будзе поўна паветра і вязні выйдуць з турмы*
*будуць перабіраць непражытага, скрадзенага тамы…*

*Таццяна Нядбай*



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**З Дар'яй Пататурка, рэжысёркай Вялікага тэатра оперы і балета, не працягнулі кантракт. Дар'я шкадуе, што не сышла сама летась, але «на гэта павінны былі быць сілы, якіх у той час не было».**



**Вадзіма Ермашука, вядомага гарадзенскага блогера, затрымалі 17 жніўня ў Шчучыне і асудзілі на 25 сутак адміністратыўнага арышту. Сутнасць абвінавачвання ў тым, што калі ён аглядаў мясцовую скейт-пляцоўку, бо хацеў з сябрамі дапамагчы стварыць падобную ў Гродна – ён нібыта заклікаў прыняць удзел у несанкцыянаваным спартовым мерапрыемстве.**



**Уладзіміру Мацкевічу, філосафу і метадолагу, выставілі абвінавачванне па арт. 342 КК (арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак).**




**Іллю Міронава, вядомага гомельскага валанцёра, асудзілі на 25 сутак адміністратыўнага арышту за майку «Пишите письма» – гэта палічылі «несанкцыянаваным пікетаваннем».**

**Заведзеная грамадзянская справа па ліквідацыі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
**Барыс Пятровіч, старшыня, адзначае, што арганізацыя паспрабуе абараняцца ў судзе і адстаяць сваю рацыю.**






**Вярхоўны суд завёў справу аб ліквідацыі Міжнароднага грамадскага аб’яднання «Бацькаўшчына».**

**Улады хочуць ліквідаваць Таварыства беларускай мовы, а разам з ім – газеты «Новы час» і «Наша слова».**







**У Мінску па-беларуску вучацца толькі чатыры тысячы школьнікаў – гэта прыкладна 2% ад усей колькасці школьнікаў сталіцы.**

# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ




**Ігару Банцэру падоўжылі**
**тэрмін знаходжання ў штрафным ізалятары яшчэ на 10 сутак.**



**Андрэй Аляксандраў, журналіст, медыяменеджар, паэт,**
**і яго партнёрка Ірына Злобіна –**
**абодва знаходзяцца ў СІЗА на Валадарскага з 12 студзеня 2021 года –**
**збіраюцца пабрацца там шлюбам.**

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ



Анлайнавы паказ спектакля «Пакой памірае», рэжысёрскага дэбюту Паліны Дабравольскай. Першы вялікі паказ спектакля ў Мінску прайшоў на фестывалі «TeArt», што паўстаў дзякуючы Віктару Бабарыку на пляцоўцы ОК16, якой кіравала Марыя Калеснікава.



Серыя графічных работ ад беларускай мастачкі Марыі Станкевіч







**Алесь Пушкін даслаў з-за кратаў партрэт Эльжбэты Радзівіл, дачкі апошняга гаспадара Нясвіжскага замка**




**Новая <u>песня</u> ад гурта Разбітае Сэрца Пацана.**




**Жылы квартал Магістр у Мінску прэзентуе пілотны выпуск з серыі аўдыёкніг «Казкі Магістра» – першая <u>казачка</u> пра тое, адкуль з'явіліся буслы.**



Фота: Вольга Бабкова

**Год таму, на піку пратэстаў у Беларусі, з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску звольніліся амаль 60 чалавек. Акцёры аб'ядналіся ў Незалежную тэатральную групу «Купалаўцы» і ў асноўным паказваюць відэа версіі спектакляў, таму што немагчыма атрымаць дазвол на паказ, улады аказваюць ціск на адміністратараў памяшканняў, якія гатовыя былі супрацоўнічаць з такім трупамі.**




**Студэнцкае аб’яднанне мастацтва праводзіць конкурс кароткаметражнага кіно на тэму «мова».**

**Відэазапіс чыткі вядомага эпасу Ёгана Вольфганга Гётэ «Рэйнеке-Ліс» на беларускай і нямецкай мовах. Незвычайнае мастацкае аздабленне – праца каманды культ-цэнтра «Корпус», адной з нешматлікіх культурных пляцовак у Мінску, якія не зачыніліся.**






**Паліна Дабравольская, беларуская рэжысёрка, акторка і музыка, стварыла трыптых аўдыёспектакляў «Viartannie», які выкладвае часткамі ў адмысловым тэлеграм-канале.**

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**Марыя Вайтовіч, актывістка з Бараўлян, арганізатарка імпрэзаў, якая вымушана была з'ехаць разам з сям'ёй, таму што яе падазраюць у *«датычнасці да тэрарызму»*:** ***«У нас няма ў планах застацца і пусціць карані за мяжой. Нам трэба выжыць у гэты час і паглядзець, як жывуць людзі, дзе працуюць законы. Мы спадзяёмся вярнуцца ў Беларусь і прывезці з сабою добры досвед».***





**Алесь Дзянісаў, музыка:** ***«Навошта цяпер пісаць песні, ставіць спектаклі і наагул займацца творчасцю? А навошта кухару гатаваць боршч? Ці дворніку падмятаць двор? Тое самае людзі, якія маюць дачыненне да сапраўднай творчасці, не дзеля чарговай прэміі ці хайпу. Я ў гэтым упэўнены. Творца, калі адчувае ў сабе сілы, натхненне, будзе рабіць, бо інакш не можа, вось і ўсё».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




На знак падтрымкі гурта Irdorath і іх сяброў, якія цяпер за кратамі, музыкі з розных краін запісваюць каверы на песню «Перемен».




Канцэрт-дэманстрацыя ў падтрымку зняволеных музыкаў з гурта Irdorath адбылася ля амбасады Беларусі ў Берліне 16 жніўня, арганізаваная нямецкім фольк-гуртом Corvus Corax. «Альтэрнатыўная беларуская амбасада» таксама далучылася да акцыі.

На нямецкім Youtube-канале Der Dunkle Parabelritter, прысвечаным рок-музыцы і актуальным падзеям музычнага свету, выйшаў выпуск пра Беларусь. У ім асвятляюцца затрыманне і зняволенне музыкаў гурта Irdorath, чыім прыхільнікам і сябрам з'яўляецца аўтар канала.



Нарвежская асацыяцыя пісьменнікаў,
Саюз пісьменнікаў, Асацыяцыя нарвежскіх аўтараў і перакладчыкаў навучальнай літаратуры,
Асацыяцыя нарвежскіх перакладчыкаў,
Нарвежскае аб'яднанне аўтараў дзіцячай і моладзевай літаратуры

выступілі з супольнай заявай у абарону незалежных пісьменнікаў Беларусі, з патрабаваннямі да беларускіх і нарвежскіх уладаў.

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У жніўні 9 чалавек, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Алесь Пушкін, мастак (6 жніўня); Пятро Марчанка, музыка (16 жніўня), Сяргей Ціханоўскі, блогер (18 жніўня); Анатоль Хіневіч, праграміст і бард (19 жніўня); Арцём Такарчук, архітэктар (20 жніўня); Сяргей Волкаў, акцёр (21 жніўня); Мікалай Дзядок, блогер і літаратар, грамадскі актывіст (23 жніўня); Ігнат Сідорчык, рэжысёр, акцёр і паэт (25 жніўня) і Уладзімір Калач, музыка гурта of Irdorath (31 жніўня).**

**Адрасы, на якія ім можна накіроўваць лісты, – па спасылцы.**

